РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №23 (132), 8 ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА.



Кажуць, у эфіры музыкі пабольшала... Як высветлілася, дзякуючы клопату адноўленай структуры дзяржаўнага кіравання радыёгукамі, якая дбае аб эстэтычнай і ідэйнай чысціні ў вушах і душах падаткаплацельшчыкаў. Нарэшце эфір вызваліўся ад радыёперашкод, якія ўтварала дзяржаўнаму логасу бескампрамісная партытура радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная". Пэўна, мелодыка слова яе дысанансам урывалася ў трагікамічнае лібрэта, паводле якога мы мусім цяпер будаваць-арганізоўваць нашае з вамі жыццё.

Мы яшчэ памятаем, як на хвалях жнівеньскага тэлеэфіру плавалі кволыя лебедзі і лебедзяняты. Плавалі пад пільным вокам палахлівых аматараў Тэрпсіхоры. Фотавока нашай газеты занатавала творчы калектыў "БМ" у хвіліны цяжкія. Спыніла сваё існаванне адна з найстарэйшых і, мабыць, найбольш аўтарытэтная рэдакцыя Беларускага радыё. Чаго цяпер паменшае на ім - беларускасці, маладзёжнасці?..

Бясспрэчна адно: музыкі з тае дудкі, пад якую павінны "танчыць" пёры журналістаў, пэндзлі мастакоў, а таксама прылады працы сялян і рабочых, нам хопіць!



*Фота Генадзя* ЖЫНКОВА.

СЁННЯ:



# ХАЛОДНАЕ ЭСЭ

ЧАС ВЫБАРАЎ

Калі пачынаеш пісаць пра палітыку, то заўжды рызыкуеш быць альбо занадта адцягненым, альбо залішне канкрэтным, г.зн. заангажаваным. Але як ні рупся, усё адно ўрэшце мусіш сказаць, ЗА каго ты, за якую палітыку выступаеш. Нават калі твае развагі мусова набліжаны да афарыстычнай формы.

Што, зрэшты, змушае прадстаўніка гуманітарнай прафесіі пакідаць звыклую дзялянку метафізічных штудый і брацца за «грамадска значную» публіцыстыку? Дагэтуль ты быў удзячны паненцы гісторыі, што засцерагала тваіх раўналеткаў-журналістаў ад умельства катаць перадавіцы і карпець над зніштажальнымі памфлетамі...

І сёння ты не ўпэўнены, што слова па-ранейшаму валодае сугестыўным уздзеяннем на людства — чытача і слухача; сёння ты бачыш, што логіка і бляск рыторыкі нікога не пераконваюць з тою лёгкасцю, якая магчымая была яшчэ год таму. СЛОВЫ ЗГУБІЛІ СІЛУ СВАЙГО ЎЗДЗЕЯННЯ НА ЛЮДЗЕЙ, і паўплываць на людства могуць толькі рэальныя ПАДЗЕІ і ФАКТЫ, а не фігуры рыторыкі. Разам з пустой па сутнасці сваёй рыторыкай адміраюць ілюзіі і беспадстаўныя спадзяванні.

Такіх было найбольш апошнім часам, і як бы па прынцыпе «астаткавага магнетызму» ілюзіі працягваюць спадарожнічаць і прэзідэнцкай кампаніі на Беларусі. Як бы ні цешыў сябе думкай, што сёлета ў чэрвені хада гісторыі не спыняецца і нешта будзе і далей, аднак надта ўжо значная падзея наплывае ў жыцці грамадства, каб не звязваць з ёю — зноў жа — спадзяванняў. І што будзе далей, як будзе далей, — у многім залежыць ад вынікаў Акта 23 чэрвеня. Гэтаксама як у жыцці паасобкавага чалавека часта далейшы лёс залежыць ад прынятых ім рашэнняў: куды пайсці вучыцца, з кім і калі браць шлюб і г.д., — бліжэйшы лёс беларускага грамадства будзе залежаць ад вынікаў выбараў. ВЫБАРУ. Беларускае грамадства сцішылася напярэдадні Акта 23 чэрвеня.

Цяпер на пэўны час страцілі ўсякі сэнс нагадванні пра колькікроць нелегітымнасць Вярхоўнага Савета, парушэнні працэдуры пры прыняцці Канстытуцыі, засілле палкоўнікаў у сродках масавай інфармацыі... Калі прагучаў стрэл стартавага пісталета, назад ужо нельга азірацца. Наперадзе — змаганне. І шмат што будзе залежаць ад таго, чыё імя будуць скандзіраваць трыбуны падчас забегу.

Шчыра шкада ўсіх сумленных супрацоўнікаў тэлебачання і радыё, хто з раніцы да вечара змушаны скрозь зубы «скандзіраваць» адно, нязменнае імя. Поўная падлегласць пад палкоўнікаў! І ніводзін дыктар не заявіў аб сваёй нязгодзе працаваць у такіх умовах... А тым часам насланыя палкоўнікі адкрыта ўчыняюць пагром нацыянальнаму радыё, закрываючы рот апошнім мікрафонам галоснасці на Беларусі... Так магчыма толькі ў той краіне, дзе дзяржаўны дыктат беспакараны.

Дык наколькі разумна займацца адно «эстэтыкай», калі вакольная рэчаіснасць, жывая чалавечая матэрыя, «простыя», далёкія ад эстэтыкі і літаратуры людзі — твае бацькі між іншым, аднавяскоўцы, сужыхары па гарадскім доме — гэтак пляжацца купкай уладатрымцаў? Хто, уласна, даў права гэтым уладатрымцам атаесамляць сябе з УЛАДАЙ УВОГУЛЕ? Калі купка ўладатрымцаў пазбаўлена паняцця палітычнай культуры і сумлення, то ўжо ж гэткіх «правіцеляў» павінна паставіць на сваё месца тая грамадская сіла, што мае ўяўленне пра культуру і сумленне. У Беларусі гэта — усе сумленныя (г.зн. з павышаным, абвостраным пачуццём годнасці) працаўнікі культуры, навукі і адукацыі, незалежна ад мовы, нацыянальнасці і веравызнання. Родніць іх адно — іманентная непадлегласць гвалту.

На жаль, з-за недасканаласці структуры грамадзянскай супольнасці пазначаная сіла надта не ўфармаваная, каб выявіць сваю волю належным чынам. Зноў «зона дзеяння» прафесара, артыста, вучонага абмежавана збольшага працоўным месцам і хатнім асяроддзем. А што значнага ў грамадскім маштабе можна зрабіць упаасобку?.. Па сутнасці, у нас па-ранейшаму захоўваецца тая ж дысідэнцкая мадэль выяўлення свае палітычнае волі сумленным чалавекам. І гэта вельмі собіць цяперашнім ліхім уладатрымцам.

Але ўправа на іх ёсць. Адзіная *рэальная* ўправа — г.зн. наяўны ў рэчаіснасці фактар — структура БНФ. Толькі зараз становіцца зразумелым, чаму гэтак зацята супрацівіўся рэгістрацыі БНФ Вярхоўны Савет: людзі ўлады адчулі *рэальную* сілу, што будзе з імі змагацца і з якой ім трэба будзе весці палітычную барацьбу. БНФ кідаў пальчатку, а людзі ўлады яе адкідалі... Пакуль іх не прымусіла прыняць бой катастрофа камунізму ў Маскве ўлетку 1991 года. На жаль, дужа нешматлікія, па прадстаўніцтве, хоць і абсалютна слушныя па задуме і кірунку партыі і партыйкі дэмакратычнай арыентацыі неяк занадта хутка паверылі ў *якасны* пералом у палітыцы, у магчымасць рабіць сваімі сіламі вялікую палітыку ў Беларусі... Думалася, што падзенне Шушкевіча ўзімку г.г. павінна было памагчы Грамадзе схаўрусавацца з Фронтам. На жаль, перабольшванне сваіх сіл з аднаго боку і прынцыповы радыкалізм з другога не дазволілі стварыць выбарчую кааліцыю дэмакратаў. І цяпер Фронт ставіць на свайго лідэра, а Грамада... на постлідэра. Хто ад гэтага выйграў?

Аднак рэальны праціўнік ліхіх уладатрымцаў засеў на Варвашэні, 8. Фронт, які за шэсць гадоў акумуляваў, напэўна, усе ўберажоныя ад кампрамісаў з камуністычнай сістэмай грамадскія сілы, якраз сёння імкліва набірае ачкі. І чым болей бескампрамісная пазіцыя Фронту па пытанні ўлады, тым надзейней яго электарат. Ён не здрадзіць, нават калі фармальна і не выйграе Акт 23 чэрвеня. Апошняе не выключана, бо яшчэ гвалт, прымус і дзяржаўная мана робяць сваю чорную справу на Беларусі, і 23 чэрвеня магчыма любое авантурнае дзеянне гэтага ўрада. Толькі рэальная сіла Фронту можа засцерагчы людзей улады ад злачыну...

Вось я, фактычна, і выказаў сваё «ЗА». Але гэта грамадзянскае «ЗА» — зусім не за Зянона Пазьняка — Пазьняка; гэта «ЗА» — за той ПАЧАТАК, ІДЭЮ, што за ім стаіць і якую ён, можа, персаніфікуе і не зусім так, як хацелася б. Спраўджаны мары не аднаго пакалення беларусаў мець свайго лідэра, рэальнага —г.зн. дзейнага — барацьбіта за нацыянальную палітыку і дзяржаўнасць. Кажуць, час Пазьняка не прыйшоў... Але справа аб дабудове нацыі і культуры — вось ідэя, што стаіць за Пазьняком. І гэтая ідэя не сыходзіць з нашай павесткі дня другое стагоддзе; то дакуль можна вычэкваць ідэалёвых, «лагодных» умоў? Можна выкрэсліваць з гісторыі, замоўчваць імя Пазьнякка, але ж не выкрасліш ідэю і патрэбу яе ажыццяўлення... Болей таго, ніхто з кандыдатаў, апроч Пазьняка, гэтае ідэі і патрэбы і не агаварыў у сваіх перадвыбарчых праграмах. Дык якая мне рацыя бачыць іх на пасадзе Прэзідэнта?! Сумняваюся, што нехта з кандыдатаў, ароч Пазьняка, здольны адказаць на такія зазвыклыя для нацыянальнага палітыка пытанні, як «Скуль пайшлі-з'явіліся беларусы?» альбо «Калі і кім надрукавана першая беларуская кніга?» і да т. п. Для дырэктара завода, старшынь калгасаў гэтыя пытанні заўжды знаходзіліся на астранамічнай адлегласці ад іх свядомасці. Трэба было — «выконваць план», «кіраваць людзьмі», «карміць краіну»... «Карміць краіну» — мяжа памкненняў нашых гіпатэтычных прэзідэнтаў!.. Ці да «Беларусі ідэалістычнай» гэткім палітыкам?

Як бы там ні было, Акт 23 чэрвеня мае стацца нарэшце актам *волевыяўлення* нашага грамадства. Уладатрымцы, як ні стараліся, не дамагліся поўнай і канчатковай нявыбарнасці людзей улады. Грамадству трэба будзе ўсё-такі выбіраць. А гэта ў адносінах да ціхмянага беларускага грамадства акт надзвычайнай важнасці. Па-першае, хоча не хоча нацыя, але мусіць хоць як выказаць сваю волю, хоць як *падумаць* над тым, чаго яна хоча і ці хоча перамены свайго стану. Роздум жа аб сабе і сваіх інтарэсах заўжды акт пазітыўны, бо калі дагэтуль за беларусаў думалі адны Пазьнякі, то 23-га і пасля аб сабе задумаецца большасць суграмадзян. Па-другое, вынікі грамадскага думання непазбежна спародзяць калівы элементарнага палітычнага вопыту, якога так бракуе нашай нацыі сёння і з'яўлення якога найбольш і баяліся сучасныя ўладатрымцы... Насоўванне халоднага лета няўтрымнае, і матч адбудзецца пры любым надвор'і.

**Юрась ЗАЛОСКА.**

# «ЦІ САСВАТАЕ РУБЕЛЬ НАШУ КАНСТЫТУЦЫЮ?»*

**У газетах шмат чаго пішуць. Іншы раз у галаве так усё перабльтаецца, што, начытаўшыся, ужо і не разумееш — ці то старшыню Нацбанка ўсёй грамадой ганяць, ці нашага прэм'ера адумацца ўгаворваюць. Мы вырашылі крыху сістэматызаваць выказванні апошніх тыдняў — і вось што атрымалася:**

## ПРА АБ'ЯДНАННЕ ГРАШОВЫХ СІСТЭМ:

**С.БАГДАНКЕВІЧ, старшыня Нацбанка:**

«Практычна ніякай дамовы пра аб'яднанне грашовых сістэм у прыродзе не існуе... Іх нельга падпісваць. І не толькі таму, што яны супярэчаць Канстытуцыі, а таму, што яны супярэчаць інтарэсам дзяржавы Беларусь, яе народа і эканомікі... Калі нехта ва ўрадзе гатовы падпісаць іх, значыць, ён не верыць у нашыя мазгі, у наш інтэлект, здольнасць самім вырашаць праблемы.»

*(«Народная газета», 20 мая)*

«Эксперты Міжнароднага валютнага фонду лічаць, што эканамічныя выгады ад дамовы аб аб'яднанні грашовых сістэм занадта перабольшаны, а фактычнае здзяйсненне грашовага саюзу з цягам часу будзе ўсё ў меншай ступені магчымым і абгрунтаваным з эканамічнага пункту погляду і ўсё больш дорага каштаваць.»

*("Народная газета", 25 мая)*

**Л. КОЗІК, старшыня Камісіі ВС па эканамічнай рэформе, дасягненні эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту краіны:**

«На ўратаванне ў выглядзе рублёвай зоны спадзявацца зараз можа толькі чалавек наіўны. Аб негрунтоўнасці гэтага праекта я гаварыў яшчэ год назад і сёння паўтараю тое самае. Спадзявацца трэба, перш за ўсё, на сябе, а не чакаць, пакуль нехта надумаецца выратоўваць.»

*("Звязда", 3 чэрвеня)*

**В.КЕБІЧ, прэм'ер-міністр краіны:**

«Сёння вельмі важна не толькі выканаць усе пункты і палажэнні Дагавора... Галоўнае — знайсці шляхі ўсеабдымнага палітыка-эканамічнага саюзу славянскіх дзяржаў... Я лічу сваім маральным абавязкам давесці пачатую два гады назад справу да канца.»

*("Народная газета", 21 — 23 мая)*

... І ДАДАЎ (пэўна, пра пачатую колькі год таму справу?):

«Мінск, як і ўся Беларусь, стаў заложнікам непрадуманых эканамічных рэформаў і выкліканага гэтым крызісу.» (!)

*("Звязда", 1 чэрвеня)*

## ЯГО ПАДТРЫМАЛА ГРУПА ЭКСПЕРТАЎ АГЕНЦТВА ГУМАНІТАРНЫХ ІНІЦЫЯТЫЎ:

«Сённяшняя адміністрацыя яўна «пераседзела» свой час. Яна ўжо даўно анахранізм, яе дзеянні ўжо больш года не ўпісваюцца ў працэсы палітыкі, гаспадаркі і жыцця Беларусі і Усходняй Еўропы. Апошні з магіканаў размеркавальнага сацыялізму Кебіч хранічна не здольны бачыць нават на два тыдні наперад.»

*("Белорусская деловая газета", 11 мая)*

## ПРА КРЭДЫТНУЮ ПАЛІТЫКУ НА БЕЛАРУСІ:

**С.БАГДАНКЕВІЧ:**

«Урад прапанаваў, каб Нацыянальны банк, папросту кажучы, надрукаваў чарговыя мільярды без усялякіх рэсурсаў.»

**Д.БУЛАХАЎ, старшыня Камісіі ВС па заканадаўстве:**

«Парушаны законы «Аб Нацыянальным банку», «Аб банках і банкаўскай сістэме», «Аб бюджэце». І самае галоўнае, парушана Канстытуцыя... Любы закон бяссільны перад уладай, якая не жадае яго выконваць... Мы сутыкаемся ўпершыню, але, думаю, не апошні раз, з крызісам неплацяжоў. Гэта вынік нашай эканамічнай бездапаможнасці. Трэба мець стратэгію крэдытна-фінансавай палітыкі, якой у нас, на жаль, няма. Гэта людзям трэба сумленна тлумачыць. Але сумленна тлумачыць сёння невыгодна. Прэзідэнцкія выбары на носе!»

*("Народная газета", 20 мая)*

**І.НІКІТЧАНКА, намеснік старшыні БСП, дырэктар праграмы Нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, член-карэспандэнт АН Беларусі:**

«Інфляцыя таксама інспірыравана ўрадам. Вылучэнне «беставарных» грошай сельскай гаспадарцы ў студзені, выплаты незаробленай зарплаты рабочым спыненых прадпрыемстваў у лютым..., шэраг іншых «эканамічных» авантураў урада сталі галоўнай прычынай рэзкага скоку інфляцыі на працягу апошніх месяцаў... Не выключана, што ўрад з мэтай «прапіхвання» В.Кебіча ў прэзідэнты пойдзе на чарговы выкід «беставарных грошай»... дзеля подкупу людзей».

*("Белорусская деловая газета", 11 мая)*

В.Кебіч тым часам абяцае грошы даць усім. На працягу 20 хвілін тэлерэпартажу ў ноч з 5 на 6 чэрвеня ён зрабіў гэта двойчы: царкоўнікам — на Крыж Еўфрасінні, Віцебскай вобласці — на пабудову моста. Крыніца фінансавання — аўстрыйская крэдытная лінія на 100 мільёнаў долараў.

## ПРА АСОБУ І ПРАФЕСІЙНЫЯ ЯКАСЦІ С.БАГДАНКЕВІЧА:

**Народны рух Беларусі:**

«Патрабуем адстаўкі... Ён у немалой ступені садзейнічаў цяперашняму найцяжэйшаму эканамічнаму крызісу... Далучыўся да нацыянал-радыкальных сілаў, якія разгарнулі масіраваны наступ на эканамічны саюз з Расіяй.»

*("Звязда", 31 мая)*

**В.КЕБІЧ:**

«Пазіцыя кіраўніцтва банка — гэта спроба тарпедавання эканамічнага пагаднення з Расіяй аб аб'яднанні грашовых сістэм... У іх звышпрыбыткі, а народ бяднее.»

*("Звязда", 1 чэрвеня)*

**А.ТРУСАЎ, народны дэпутат ВС, кіраўнік ініцыятыўнай групы С. Шушкевіча, старшыня ЦР БСДГ:**

«У выпадку перамогі на прэзідэнцкіх выбарах Станіслава Шушкевіча прэм'ер-міністрам новага ўрада стане цяперашні старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч.»

*("Звязда", 4 чэрвеня)*

«...Спецыяліст, прафесіянал... не схільны да мітусні, здольны дзейнічаць узважана і адказваць за свае справы, нічым не заплямлены, мае наладжаныя эканамічныя сувязі з любым замежжам, валодае сваім пунктам погляду на важнейшыя праблемы і можа сваю пазіцыю аргументавана адстойваць...»

*("Народная газета", 31 мая)*

Лагічна запытацца, чытач, — хто мае рацыю?

Выбары адкажуць. І час.

А суддзі хто?

Мы з табою.

Газеты чытаў
Максім ГІЛЕЎСКІ.

*(са «Звяздоўскіх» прыпевак)

# ЗНІТАВАЦЬ СВЕТ ЛЮБОЎЮ

ЛЕДЗЬ не звыкла рыхтуемся да сёлетняга семінара «Культура беларускага замежжа», які праводзіць наша «Бацькаўшчына», а таксама да беларуска-амерыканскай канферэнцыі, якая пройдзе ў Навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф.Скарыны ў чэрвені. Трохі прывыклі да таго, што зможам ізноў сустрэцца з дарагімі нам людзьмі, якія прыедуць сюды, на Бацькаўшчыну. Кажу — дарагімі, таму што яшчэ і да сустрэч з імі з усяго, што ведалі, узнікала глыбокая павага да нашых суайчыннікаў, якія там, у далёкай і багатай Амерыцы, не забыліся на родную зямлю, на мову, а жылі гэтым. Калі ж летась нам з рэжысёрам Валерыяй Скварцовай пашанцавала паехаць у Амерыку і амаль месяц, сустрэча за сустрэчай, адкрываць для сябе шчырых патрыётаў нашай Бацькаўшчыны, якія рупліва пабудавалі за гады эміграцыі культурныя цэнтры, цэрквы, дзе набажэнства вядзецца па-беларуску, якія ўсе доўгія гады, калі нас раздзяляла «жалезная заслона», нагадвалі свету пра тое, што Беларусь фактычна не мае незалежнасці, і расказвалі пра яе цудоўную гісторыю і культуру, — многія з тых, пра каго мы зрабілі свае перадачы, сталіся нам зусім блізкімі.




Перш за ўсё, вядома, чалавек, чыя ідэя — паказаць беларусаў замежжа, а таксама свет амерыканскага чалавека, што займаецца бізнесам і, праз гэта робіць карысць сабе і сваёй краіне, — і прыняла нас, дасюль незнаёмых яму людзей, за некалькі тысяч кіламетраў у Амерыку. Васіль Мельяновіч стаў не толькі адным з фундатараў паездкі, але ў поўнай ступені суаўтарам нашых перадач. Праўда, графік працы, падрыхтаваны ім загадзя, быў занадта «жорсткім», нам давялося працаваць часам ледзь не ў экстрэмальных умовах, у спякоту, калі здымачны рэжым непажаданы, у кароткія, хуткаплынныя хвіліны, адведзеныя прэзідэнтам банка ці менеджэрам буйнога Шопінг-цэнтра для інтэрв'ю беларускім журналістам. Але ён нястомна перакладаў, паказваў, тлумачыў, вазіў нас у доўгія паездкі, калі, знямогшыся, мы па чарзе спалі на заднім сядзенні машыны, а ён вёў машыну праз ноч і туман, расказваючы пра дзяцінства на Палессі, пра родзічаў, уся віна якіх была ў тым, што яны былі добрымі гаспадарамі, пра матор, які ягоны бацька некалі з неймавернымі намаганнямі купіў на цяжкім потам заробленыя капейкі, і як потым гэты адабраны камбедаўцамі матор так і не спатрэбіўся нікому і стачыўся іржою, і што ён, Васіль, бачыў яго рэшткі тады, калі праз сорак з нечым гадоў зноў прыехаў на радзіму, адкуль быў вывезены дзіцем... Пра здзічэлы сад і зямлю, зараслую хмызняком — тую, дарагую для кожнага працаўніка-хлебароба зямлю, салоную ад сялянскага поту, за якую пагражала высылка ў Сібір... Усю гэтую сагу аб зямлі, аб тых прадзедах, якія як жывыя ўставалі з яго аповядаў, запомніць было немагчыма, але горыч кожны раз паднімалася ў грудзях — які ж пласт найбольш працавітага сялянства быў выкарчаваны, знішчаны, раскіданы па свеце! Спадар Мельяновіч часта паўтараў пра сябе: «Я сын кулака...» (адзін з артыкулаў пра яго так і назвалі потым), і ў гэтым паўтарэнні была, мабыць, тая ж горыч чалавека, які і цяпер у сэрцы не можа прымірыцца з тым, што працавітасць, нязломнасць у працы і любоў да зямлі ягонага бацькі і дзеда, яго родных аказаліся не толькі непатрэбнымі, але і шкоднымі для ўлады, якая называла сябе рабоча-сялянскаю... Мабыць, у ім, інжынеры Амерыканскай тэлефоннай і тэлеграфнай карпарацыі, дзе ён працаваў да пенсіі, усё ж і па сёння жыве дух ягоных продкаў, сялян-палешукоў з іх асабліва моцным і нязломным характарам. Прынамсі, калі мы былі на ферме, ягоныя рукі неяк асабліва беражна дакраналіся да сена ў кармушках, звыкла клаліся на плужкі, якія ён паказваў у краме. І яшчэ адно ў ім адчувалася — моцная, як амаль ва ўсіх, каго мы здымалі, любоў да мовы — нашай, беларускай. Ужо пазней, у Мінску, мы двойчы бачылі, як пазнавалі яго людзі, якім ён некалі, яшчэ падчас першага пасля доўгага перапынку прыезду на Беларусь (у 1988 годзе), па-беларуску тлумачыў экспанаты выставы «Інфарматыка ў жыцці ЗША», дзе быў гідам. Людзі пры нас расказвалі пра шок, які ахопліваў іх, калі яны даведваліся, што гэты беларус у сапраўднасці амерыканскі грамадзянін, які не забыўся на родную мову і цяпер дакараў іх, якія — забыліся... І вось цяпер, нават праз столькі гадоў, пазнавалі і расказвалі пра свой шлях да Беларусі — не той, якую ў скоках выводзілі на сцэну перад замежнымі гасцямі, не рэкламна-савецкую, з яе скажонай і перакрыўленай гісторыяй, а да Беларусі пракаветнай, прадзедамі ў душы захаванай і асвечанай змаганнямі за незалежнасць... І калі ў сябе дома ставіў Васіль Мельяновіч кружэлку, дзе хор хораша і зладжана спяваў «О Беларусь, мая шыпшына», ён выціраў вільготныя вочы, варушыў вуснамі, падпяваючы знаёмым і дарагім словам...



У Саўт-Рывэры, ля царквы Еўфрасінні Полацкай, упершыню ўбачылі мы і Надзею Кудасаву, пра якую столькі чулі раней. Нам расказвалі пра ейныя ткацтва і прадзіва, пра вялікія высілкі па захаванні беларускасці і яе прапагандзе. Ішла невысокая сталая жанчына ў нечым белым, з вышытымі васількамі — як плыла, засяроджаная ў сабе і, мабыць, у будучым набажэнстве. Малілася з глыбокім унутраным пачуццём, уся — у спевах, словах, зваротах да Бога, да святой Еўфрасінні — патронкі і апякункі Беларусі. Пасля, у сваёй утульнай хаце, нібы ахутанай кветкамі, дзе звонку на сценах уюцца белыя і чырвоныя ружы, яна раскрывала куфар, адкуль нібыта палыхала белым і чырвоным святлом, і паказвала вышытыя ёю і выпрадзеныя сарочкі, андаракі, паясы, і расказвала аб жыцці — нялёгкім, складаным. Як цяжка працавала па першым часе, прывыкаючы пасля страшнай вайны, пераездаў, стрэсаў да новага жыцця, як выходзіла замуж, не маючы анічога, апроч сукенкі ды пары пантофлікаў, і, пажыўшы колькі часу з мужам, пасля доўгія гады даглядала яго, цяжка хворага. Расказвала з ціхай стрыманасцю, з высокай жаночай і чалавечай годнасцю, якая рабіла яе асабліва прывабнай. Памятаю, што там жа, у яе хаце, склаліся першыя радкі верша пра мудрую Праллю, што звязвае Час і Прастору, нітуючы свет і людзей, і гэты верш «пацягнуў» за сабою іншыя, пра іншых людзей і сітуацыі, але, бадай што, усе яны расказвалі пра адно — вялікую любоў да Беларусі, пранесеную праз цяжкія выпрабаванні і перададзеную нам.

Зору і Вітаўта Кіпеляў мы здымалі і ў хаце, і ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Можа, таму, што доўгія белыя фіранкі ўвесь час калыхаліся ад ветру, нібыта ветразі, іх дом мне ўспамінаецца як нешта светлае, хісткае, і сніліся мне там вялікія постаці вялікіх людзей — Скарыны, Вітаўта, і зоркі ў вакне ў тую ноч былі асабліва выразнымі і яркімі. Можа, усё ж думка матэрыялізуецца, і двое вучоных-даследчыкаў, што працуюць на ніве беларускай гісторыі, культуры, сапраўды насычаюць усё вакол асаблівай атмасферай, у якой лёгка тым, хто сам працуе са Словам? А можа, сказвалася і своеасаблівая «зададзенасць», калі, едучы на здымкі, яшчэ ў Беларусі дачытваеш іх апошнія работы, даследаванні, калі ўвачавідкі раз-пораз бачыш у нашай Нацыянальнай бібліятэцы людзей, што прагна схіліліся над кнігамі, прывезенымі, вядома ж, Кіпелямі, — бо ніхто, як яны, не прывезлі столькі інтэлектуальнага багацця, назапашанага за доўгія гады беларускімі інтэлектуаламі замежжа, і гэта стварае адчуванне асаблівай блізкасці да фактычна незнаёмых людзей, а яны, у сваю чаргу, успрымаюць цябе, як добра знаёмую, і дзеляцца ўражаннямі ад нашай агульнай Радзімы. Сярод тых уражанняў, вядома ж, розныя — светлыя і горкія.

Юрка Кіпель, высокі прыгажун у шортах — малады ўрач — апавядаў, як, прыехаўшы ў Мінск, зайшоў у кнігарню і папрасіў нейкую кніжку. Папрасіў, вядома ж, па-беларуску. У адказ пачуў ад нафарбаванай лялькі зняважлівае: «Говорите по-человечески!». Юрка апавядае гэта з гумарам, але ў голасе — ледзь прыкметная тая ж — горкая! — інтанацыя...

Скурчыўшыся ад аднаго ўяўлення той сітуацыі, суцяшаеш сябе тым, што праз пакаленне-два, калі ўвойдуць у сілу беларускія школы, а колькасць вернутых з багны забыцця ў чалавечую цывілізацыю (дзе шануюць усе мовы, а найперш — родную) людцаў пяройдзе ў якасць, наша краіна будзе іншаю, еўрапей-скаю. Амерыканскай (альбо амерыканізава-най, як баяцца апалагеты заслонаў з металу) яна, вядома ж, не стане, хаця, калі мы не пяройдзем зноў да нармавання і картачак, паступова прыватная ўласнасць і звязаная з ёю ініцыятыва зробяць сваё.

Вось чаму важнай нам падалася магчымасць расказаць пра фірму Анатоля Лук'янчыка «Лук'ян». І, як паказаў час, гэтая перадача аб уладальніку фірмы выклікала асаблі-вую зацікаўленасць. Званілі, пісалі людзі, прасілі ўдакладніць памеры заробку і страховак. Адна справа — чытаць пра абароненасць амерыканскіх працоў-ных альбо пра бізнесме-наў. І, як аказалася, зусім іншае — бачыць жанчыну, якая вось-вось пойдзе на пенсію, прарабіўшы ў фірме колькі дзесяткаў гадоў, і пераканацца, якая яна жыццярадасная і зусім маладая па нашых мерках. Альбо



бачыць абаяльнага, нетаропкага Анатоля Лук'янчыка, які апавядае пра сваё станаўленне як уладальніка вось гэтай фірмы: як пачынаў з аднаго энтузіязму і жадання быць не парабкам, а гаспадаром свайго лёсу... Як калісьці «па-чорнаму» рабіла, рэжучы жалеза, жонка, працуючы нароўні з мужчынамі — братамі мужа, як знясільваліся яны ўсе, аддаючы працы сілы і ўменне, укладаючы ў сваю прадукцыю вынаходніцтвы і прыдумкі ў тэхналогіі. І мы бачым вынік гэтай працы, гэтай пастаяннай барацьбы за якасць — Анатоль, як і браты, з рабочага стаў гаспадаром (яго фірма найлепшая ў Паўночнай Амерыцы сярод іншых), даў магчымасць дзецям атрымаць вышэйшую адукацыю, сваім мазалём зарабіў і гэты шыкоўны дом са мноствам незнаёмых нам зручнасцяў, і рахунак у банку, які дазваляе сям'і Лук'янчыкаў рабіць значныя ахвяраванні ў царкву.

Летась я захавала інфармацыю з «ЛіМа» аб тым, што «30 красавіка ў дырэкцыі Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі адбылася цырымонія перадачы чэка на суму дзесяць тысяч долараў, ахвяраваных адным з прадстаўнікоў беларускай эміграцыі на рэстаўрацыю Мірскога замка. Чэк быў перададзены дырэктару музея Юрыю Карачуну міністрам замежных спраў рэспублікі Пётрам Краўчанкам, які атрымаў яго ад фундатара». Выклікала здзіўленне, чаму няма прозвішча фундатара. Аказалася — прыкрая выпадковасць, а грошы на аднаўленне Мірскога замка, ля якога я нарадзілася і вырасла, даў ён — Анатоль Лук'янчык. Тады ж, калі мы былі ў яго ў гасцях, ён меўся ахвяраваць грошы на царкву Еўфрасінні Полацкай у Полацку. Тады ж падумалася — а ці зможа хто сярод манашак, якія ёсць у манастыры пры Спаса-Еўфрасіннеўскай царкве, пагаварыць са спадаром Лук'янчыкам на той мове, якой карыстаецца ў Амерыцы ён, прыходзячы ў царкву ў Саўт-Рыверы, што носіць імя беларускай асветніцы?!

**Вольга ІПАТАВА.**

*На здымках:*

1. Васіль Мельяновіч ля магілы бацькі.
2. Наталля і Анатоль Лук'янчыкі.
3. Надзея Кудасава.
4. Ля дома Кіпеляў: Вітаўт Кіпель, Валерыя Скварцова, Вольга Іпатава, Зора Кіпель.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*



# ЁСЦЬ ЦЭНТР НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР!

Толькі тая краіна багатая на культурную спадчыну, якая здолела захаваць ў сабе найлепшае з культур іншых народаў. На Беларусі сёння жывуць прадстаўнікі звыш 120 нацыянальнасцяў. І неяк няёмка пра іх казаць— нацыянальныя меншасці, бо за час існавання гэтай зямлі моцна перапляліся паміж сабой карані беларускага, украінскага, польскага, рускага, татарскага, яўрэйскага і іншых народаў...

Менавіта ім, прадстаўнікам шматлікіх нацыянальнасцяў Беларусі, і была прысвечана вечарына, што праходзіла ў рэспубліканскім Доме ветэрана з нагоды ўрачыстага адкрыцця тут Цэнтра нацыянальных культур Беларусі. На свята былі запрошаны прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, дыпламатычнага корпуса, кіраўнікі беларускага ўрада.

Як адзначалася на вечары, адкрыццё Цэнтра — гэта яшчэ адзін крок да гуманнасці і ўзаемапаразумення паміж людзьмі, крок да спасціжэння агульначалавечых каштоўнасцяў.

М.Р.





*На здымках:*

1. Гучыць заліхвацкая ўкраінская мелодыя.
2. Яўрэйскі танец у выкананні Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі.
3. Гасцей вітаюць Зінаіда Бандарэнка і старшыня Савета нацыянальных меншасцяў Беларусі Барыс Шабановіч.

Фота Г.ЖЫНКОВА.

# ВІТАЕМ ЦЯБЕ, «МАЛАДЗЕЧНА — 94»!

Лета пакуль не радуе цеплынёй. З-за непрадказальнага надвор'я ўрачыстае адкрыццё другога Нацыянальнага фэсту сучаснай беларускай музыкі і паэзіі прыйшлося перанесці з традыцыйнага месца — сквера ля Опернага тэатра — у тэлестудыю. Нягледзячы на гэтыя і іншыя складанасці нашага часу, 2 чэрвеня свята распачалося ў Мінску, каб затым 10 і 11 чэрвеня прадоўжыцца ў зялёным і гасцінным Маладзечне.

У тэлестудыі сабраліся тыя, хто паспрыяў стварэнню музычнага фестывалю — вядомыя артысты, паэты, кампазітары. Адкрыў свята адзін з ініцыятараў правядзення фэсту, чалавек, які шмат зрабіў і робіць для развіцця айчыннай культуры — мэр Маладзечна, дэпутат Вярхоўнай Рады Рэспублікі Беларусь Генадзь Карпенка.

З прывітальным словам да гасцей, якія сабраліся ў студыі, і тэлегледачоў звярнуўся міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч. Адзначыўшы важнасць падзеі, ён падкрэсліў: калі ёсць культура, ёсць і будучыня.

Поспехаў фестывалю пажадалі паэты Леанід Дранько-Майсюк і Уладзімір Някляеў, рэжысёр-пастаноўшчык Бахціяр Бахціяраў, кампазітар Алег Елісеенкаў.

Галоўная дзеючая асоба фестывалю — Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга. Для гэтай урачыстай падзеі калектыў падрыхтаваў новую работу — оперу «Матчын спеў», якую напісаў кампазітар Ігар Палівода на вершы паэта Аркадзя Куляшова. У гэты вечар мы пачулі цудоўныя галасы салістаў Іны Афанасьевай і Валерыя Дайнэкі, партыі ў выкананні Вадзіма Касэнкі, Якава Навуменкі, Наталлі Тамела, Анжэлікі Віт, вакальнай групы аркестра.

Ход фестывалю будзе асвятляць Нацыянальная тэлерадыёкампанія. Канцэрты, што пройдуць на маладзечанскім стадыёне, убачыць уся Беларусь. 9 чэрвеня сярод маладых канкурсантаў адбудзецца жараб'ёўка, пройдзе прэс-канферэнцыя для журналістаў. На наступны дзень а 18-й гадзіне публіка ўбачыць першы конкурсны канцэрт, у 21.30 — урачыстае адкрыццё фэсту, у якім возьмуць удзел вядомыя беларускія спевакі і калектывы. Пасля 24 гадзін па традыцыі распачнецца начны джаз-канцэрт.

11 чэрвеня а 18-й гадзіне гледачы пазнаёмяцца з музычнай праграмай «У роднай песні роднае слова», у 21.30 пройдзе гала-канцэрт, а потым — начны канцэрт.

На адкрыццё фэсту запрошаны знакаміты выканаўца і кампазітар, былы выхаванец маладзечанскай музычнай вучэльні Юрый Антонаў. На закрыцці выступіць і другая знакамітасць — грузінская спявачка Тамара Гвардцытэлі.

Узначальвае журы конкурсу Віктар Вуячыч. У склад судзейскай каманды ўваходзяць Уладзімір Мулявін, Валерый Дайнэка, Уладзімір Місевіч, Алег Елісеенкаў і іншыя дзеячы мастацтва.

Удзельнікаў фэсту чакаюць разнастайныя прызы і падарункі, а пераможцу, як і летась, — легкавы аўтамабіль.

Удачы табе, «Маладзечна — 94»!

Гражына ДАНІЛЕВІЧ.

# УДАКЛАДНЕННЕ ДА АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ

Думаючы пра ілюстрацыю да артыкула цудоўнай літоўскай даследчыцы Альмы Лапінскене «З літаратурных кантактаў Вільні», які яна даслала ў рэдакцыю «Культуры», я ўспомніла пра фотакартку, падараваную мне некалі ў Гродне, і вырашыла, што сама яна — ўжо сведчанне таго, што гэтыя досыць шчыльныя кантакты паміж беларускай і літоўскай літаратурамі не перапыняліся і ў наступныя гады, і прынесла яе ў рэдакцыю. І трэба ж! — па тэхнічнай неабачлівасці «вылецелі» з набору прозвішчы тых, хто стаяў некалі на вуліцы Э.Ажэшка перад аддзяленнем Саюза пісьменнікаў у той прахалодны дзень, пасля вельмі цёплай і ажыўленай сустрэчы ў Доміку Ажэшкі, засталіся толькі два апошнія — маё і Дануты Бічэль-Загнетавай!

Але і ў тым пераліку, які «вылецеў» з набору, не было аднаго імя — Васіля Быкава. А ён жа стаяў там побач з намі. Стаяў — але не трапіў на старонкі «Гродзенскай праўды», дзе гэтая фатаграфія была ў тым 1970 годзе надрукаваная. Не трапіў, таму што ў самым разгары было цкаванне яго, найвыдатнага пісьменніка Беларусі, за праўдзівыя, высокамастацкія творы. Гэта быў час, калі пра яго, як пра «ворага народа», якога, шкада, нельга ўжо сасլаць у Сібір ці расстраляць, гаварылі на сходах партячэек у Гродне, калі, як ён казаў з сумнай іроніяй, даведваўся аб пачатку чарговай кампаніі ці нават аб выхадзе чарговага артыкула генералаў-ветэранаў накшталт «Аганькоўскага»: «На чью мельницу воду льёте, товарищ Быков?», па тым, ці вітаўся з ім рэдактар газеты, дзе ён працаваў сціплым літкансультантам. Адной з праяваў гэтага цкавання і было тое, што постаць Васіля Уладзіміравіча, які стаяў з краю, проста адрэзалі. Мы, пасля публікацыі, абураліся, Аляксей Карпюк званіў у абкам партыі, але ўжо з «Гродзенскай праўды» адказалі, што В.Быкаў проста выпадкова «не ўмясціўся» ў фатаграфію, і ў доказ прыслалі яе нам.



Народны пісьменнік Васіль Быкаў, як ні стараліся «адрэзаць» яго ад літаратуры, і сёння — гонар нашай краіны. І ў тым, што ў нас ёсць такія пісьменнікі, наша шчасце.

А спіс тых, хто знаходзіцца на здымку (вядома, апроч нас з Данутай), такі:

Злева направа: Пятрас Жукаўскас, Альгердас Поцюс, Мікола Ткачоў, Альбертас Жукаўскас, бібліятэкарка Людміла Шагун, Рамутэ Скучайтэ, Адам Мальдзіс, Аляксей Пяткевіч, Мікола Хведаровіч.

... Вось аб чым захацелася мне расказаць у сувязі з тэхнічнай памылкай у мінулай публікацыі нашай газеты...

Вольга ІПАТАВА.

# СВЯТА ЯДНАННЯ СЛАВЯН

Свята славянскага пісьменства — жывое і рухомае, яно падарожнічае з горада ў горад, з рэспублікі ў рэспубліку. Колькі гадоў таму было і ў нас, у Мінску. Сёлета адзначалася ва Уладзіміры, куды паехала афіцыйная дэлегацыя з Беларусі, а таксама ў Кішынёве, дзе выпала пабываць мне як прадстаўніцы Саюза пісьменнікаў.

Арганізацыю святкавання ўзяў на сябе Славянскі фонд Малдовы. Удзельнічалі актывісты рускай, украінскай, беларускай абшчын, Міністэрства культуры і дэпартамент па нацыянальных пытаннях Малдовы, госці з Румыніі, Балгарыі, Расіі, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса. Рускі тэатр, дзе адбылося ўрачыстае адкрыццё, быў паўнюткі. Што ні кажыце, а не так часта здараюцца ў нашым жыцці святы, яны ўзнімаюць нас над будзёншчынай...

Галоўны рэй вялі балгары — гэта ад іх пайшла традыцыя ўшанавання імёнаў і неўміручай справы святых братоў, роўнаапостальных Кірылы і Мефодзія. З поспехам выступіў вакальны дуэт з Кіева. Паэты чыталі вершы. Гучалі рускія рамансы. У мяне, на жаль, музычнага падмацавання не было: наш фальклорны гурт «Церніца» ў самы апошні момант адмяніў паездку ў Кішынёў. Думаю, што паўплывалі чыста матэрыяльныя варункі. Камандзіроўкі ў бліжняе замежжа — справа пакуль неадпрацаваная і няпростая ва ўсіх адносінах...

На шчасце, выручылі землякі-кішынёўцы. Спявала заслужаная артыстка Малдовы, ураджэнка нашага краю Святлана Стрэзева, якая, дарэчы, па кантракце неўзабаве едзе ў ЗША.

У праграме свята былі ўрачыстая літургія ў невялічкай і стромкай Свята-Георгіеўскай царкве, ускладанне кветак да помнікаў славутых дзеячаў славянскай культуры, адкрыццё выставы старажытных, пісаных кірыліцай кніг у Нацыянальнай бібліятэцы РМ, сустрэча ва ўкраінскім ліцэі (украінскя абшчына тут, бадай, самая ўплывовая), паездкі ў раёны і іншыя гарады рэспублікі. Не абмінута ў плане мерапрыемстваў і Прыднястроўе (Цірасполь), але там мне пабываць не ўдалося: на руках быў зваротны білет.

А можа і лепш, што так здарылася? Бо за ўрачыстымі імпрэзамі і ўзвышанымі словамі пра дружбу славян, нябачная сярод півоняў і ружаў, сачыла... пані Палітыка. Так, так, яна, усюдыісная... Пра яе нагадвалі нам адсутнасць пісьменнікаў з Украіны і самой Малдовы, пахмурнасць і нейкая «адгароджанасць» румынскай дэлегацыі, стараннае пазбяганне ўсялякіх згадак пра нядаўнія крывавыя падзеі ў тым самым Прыднястроўі.

У адрозненне ад афіцыйных прадстаўнікоў вольна і нязмушана адчувалі сябе жвавыя сялянкі з Румыніі. Ансамбль старадаўняй рускай песні ліпаван (так у Румыніі завуць нашчадкаў рускіх старавераў) стаў сапраўдным адкрыццём Дзён славянскага пісьменства і культуры. Пакінуўшы на мужоў дзяцей і гаспадарку, забыўшыся на неабкапаны сланечнік, гэтыя простыя, з загарэлымі тварамі кабеты літаральна выклікалі шок у глядацкай зале — дзе б ні выступалі. Настолькі пранікнёна, ад сэрца яны спявалі, так натуральна «пражывалі» на сцэне кожную народную песню. У некаторых песнях я пазнавала нашы, беларускія мелодыі і словы. Адкуль яны там — можна толькі гадаць.

Беларуская абшчына Кішынёва нешматлікая і не самая дружная, сабраць яе для нейкіх культурных акцый — справа нялёгкая. Беларускі клас летась адкрыць не ўдалося. Па магчымасці дапамагаюць землякам ва ўсіх пачынаннях супрацоўнікі пастаяннага прадстаўніцтва РБ (у блізкмі будучым яно стане пасольствам). Не без яго клопату адкрыта ў горадзе беларуская бібліятэка, якая з усёй друкаванай прадукцыі нашай рэспублікі атрымлівае толькі «Голас Радзімы», — нішто іншае выпісаць нельга. Не хапае і кніжак. Карыстаюся нагодаю папрасіць усіх, хто зацікаўлены ў адраджэнні беларушчыны за межамі, дапамагчы бібліятэцы кнігамі, паштоўкамі, кружэлкамі, партрэтамі... Землякі з сонечнага Кішынёва будуць вам удзячныя.

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.

# БЕЛАРУСЬ У САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ

7 чэрвеня Санкт-Пецярбургская асацыяцыя беларусістаў правяла другую ўжо штогоднюю канферэнцыю на тэму «Санкт-Пецярбург і беларуская культура». У пасяджэннях, якія адбыліся ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы, бралі ўдзел вядомыя навукоўцы-беларусісты і літаратары.

Адкрыў канферэнцыю аглядам стану беларусазнаўства ў Паўночнай Пальміры старшыня Санкт-Пецярбургскай асацыяцыі беларусістаў доктар гістарычных навук А.Мельнікаў. Сталы аўтар нашай газеты, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства В.Грыцкевіч распавёў пра дзейнасць навукоўцаў беларускага паходжання ў Санкт-Пецярбургу. Спавешчанне Г.Семянчука з Гарадзенскага дзяржуніверсітэта было прысвечана санкт-пецярбургскім археолагам, якія сапраўды шмат зрабілі для вывучэння матэрыяльнай культуры Беларусі мінулых стагоддзяў. І.Жураўскі цікава гаварыў аб гістарычным аспекце экспансіі іншых краін на Беларусь. Супрацоўнік Расійскага этнаграфічнага музея А.Лысенка распавёў аб прынцыпах стварэння новай экспазіцыі «Беларусы ў Санкт-Пецярбургу», якую ладзіць гэтая ўстанова. У.Антонаў зрабіў параўнальны аналіз «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» і расійскай энцыклапедыі «Отечественная история». Пра калекцыю рукапісных помнікаў Вялікага княства Літоўскага ў бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук распавяла І.Лебедзева. Спавешчанне М.Нікалаева было прысвечана новым задачам вывучэння кніжнай культуры ВКЛ. Рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» В.Скалабан гаварыў пра ролю пецярбургскіх навукоўцаў у стварэнні беларускіх энцыклапедычных выданняў, а таксама пра згадкі Санкт-Пецярбурга на старонках гэтых выданняў. А доктар мастацтвазнаўства І.Мацыеўскі распавёў аб перспектывах вывучэння культуры беларускага памежжа. Цікавыя спавешчанні зрабілі таксама А.Разумаў, Д.Левін, М.Ткачэнка, С.Жэмайціс, А.Мыльнікаў, А.Баброў і П.Мядзведзеў.

Па заканчэнні пасяджэнняў удзельнікі канферэнцыі ўсклалі кветкі на магілу акадэміка, слыннага беларусазнаўцы Яўхіма Карскага.

Наш кар.

КАНТРАМАРКА

# ТРАГЕДЫЯ ХАОСУ

Апошнім часам трывалыя сцены тэатра імя Якуба Коласа, другой тэатральнай «акадэміі» нашай краіны, усё часцей даюць расколіны пад адчувальным націскам найноўшых рэжысёрскіх эксперыментаў. Да апошніх стаўленне самае супярэчлівае і ў шырокім глядацкім коле, і ў вузкім асяроддзі калятэатральнай эліты. Мне ж здаецца, калі пошукі новых форм не спалучаюцца з акцёрскімі «адкрыццямі», з «навізной» мастацкай інфармацыі, з эмацыянальна-псіхалагічным узрушэннем глядзельнай залы, то ўсе намаганні і высілкі застаюцца марнымі.

«Кароль Лір» У.Шэкспіра — вяршыня сусветнай драматургіі — ужо не адно стагоддзе хвалюе творцаў вялікай псіхалагічнай праўдай пра аблуды і прасвятленні чалавека. Трагедыю ставілі і ставяць самыя буйныя майстры сучаснай рэжысуры: ангелец Пітэр Брук, італьянец Джорджа Стрэлер, расеец Анатоль Васільеў, армянін Харэн Абрамян ды іншыя. Адразу сцвердзім, што вышэйпамянёныя рэжысёры не ставілі як самамэтную задачу арыгінальна страктаваць яе, падагнаць «чалавечы» змест пад палітычную кан'юнктуру часу, бо гэта парушыла б інтэнсіўнае, насычанае жыццё персанажаў п'есы, а значыць, і пазбавіла б спектакль стылёвай вытанчанасці, яго структурна-цэласнай акрэсленасці, ідэйнай зладжанасці. А гэта і адбылося на коласаўскай сцэне.

Ужо ў першых эпізодах адчуваеш штучнасць, прыдуманасць рэжысёрскай канцэпцыі (аўтар пастаноўкі — мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Маслюк). Планета Зямля быццам бы перажыла ядзерную катастрофу, адбыўся, так бы мовіць, апакаліпсіс. І вось на рэштках былой цывілізацыі ўзнікае новая, яшчэ больш дзікунская. Сучасныя алюзіі пазначаны ў спектаклі пункцірна. Яны існуюць найперш на ўзроўні мастацкага афармлення: спалучэнне ў касцюмах персанажаў элементаў розных эпох; адсутнасць дэкарацый, і толькі на фоне аголеных цагляных сцен (ходкі штамп!) — вялікая труба (шлях у апраметную ці на неба?), адкуль з'яўляюцца героі спектакля; рэшткі разбітага верталёта. Гэтае асяроддзе абжываецца ўнутраным, духоўным светам выканаўцаў. Ды і як артысту акадэмічнага тэатра, выхаванаму пераважна на традыцыях псіхалагічнай школы, прабіцца праз неймаверную тоўшчу ўмоўнасці ды метафарычнага нагрувашчвання, як сыграць героя з ніякага часу, з ніякай краіны?

Прызначэнне на галоўную ролю Леаніда Трушко, акцёра даволі супярэчлівага, але, безумоўна, таленавітага, таксама вынікае з прыдуманасці «аўтарскай канцэпцыі» В.Маслюка: мажны целасклад, ды і зусім не старэчы ўзрост не адпавядаюць традыцыйным уяўленням пра кволага, нікчэмнага, выжыўшага з розуму манарха. Выканаўца і не спрабуе «прабіць» вонкавую ўмоўнасць: яго Лір фізічна здаровы, пазбаўлены маральных комплексаў тыран (тым больш, што акцэнтуюцца знямоглыя ад катаванняў кароль Французскі і герцаг Бургундскі), які ўзгадаваў цэлую зграю лісліўцаў і крывадушнікаў. Але навошта тады існуюць пры ім станоўчыя героі, прыкладам, Кент (У.Куляшоў) і Блазен (Т.Кокштыс)? Якую нясуць сэнсавую нагрузку? Чаму дапамагаюць Ліру? Натуральна, што выдатны тэкст ролі Блазна аказаўся так моцна скарочаны, што калі б яго ўвогуле не было ў спектаклі, глядач бы гэтага і не заўважыў.

Зло ў спектаклі коласаўцаў пачынаецца менавіта з Ліра. Але якія ж намаганні павінен здзейсніць акцёр, каб сыграць пераўтварэнне такога Ліра-караля ў Ліра-чалавека?! На вялікі жаль, развіцця, «перспектывы» вобраза не атрымалася. Сцэны вар'яцтва зусім не ўзрушаюць, не пераконваюць (магчыма, тут віна не столькі цэнтральнага выканаўцы, колькі занадта кволага яго акружэння — Кент, Блазен). У трагедыі Шэкспіра Лір адчуваў сябе перш за ўсё звышчалавекам, роўным хіба толькі Богу. Таму ён і аддаў знешнія атрыбуты ўлады, бо не адчуваў у іх патрэбу. Леанід Трушко іграе фактычна толькі знешні план, закранае павярхоўны пласт ролі: яго кароль губляе розум, калі страціў уладу, адчуў на ўласнай скуры каварства дачок, не здолеў вытрымаць такой здрады. Такім чынам, сэнс трагедыі здрабніўся. Расхінуўшы прасторава-часавыя рамкі п'есы да касмічных маштабаў, рэжысёр не здолеў у поўнай меры ажыццявіць сваю задачу, бо не сцэментаваў, не матываваў яе адпаведнымі лініямі паводзінаў персанажаў, не стварыў на сцэне акцёрскі ансамбль. Кожны выканаўца робіць накід свайго малюнка, нясе свой стыль. Хтосьці (прыкладам, Лір — Л.Трушко, Ганерылля — Т.Кабяк, Рэгана — Л.Антосева, герцаг Карнуэльскі — Ф.Шмакаў) працуе ў псіхалагічным, іншыя — у завострана-гратэскавым (Эдмунд —А.Градабоеў, Освальд — В.Салаўёў), а нехта — рамантычным (Кардэлія — Т.Ліхачова) ключы.

Хаос у душах герояў, хаос у прыродзе — напэўна, можна адчуць, чытаючы гэтую трагедыю. Але хаос пануе і на сцэнічнай пляцоўцы. Чаму рэжысёр акцэнтуе значную ўвагу на Эдмундзе? Фізічна і сексуальна прывабны, з пустымі вачамі, механічнай хадой і адпаведнай гаворкай, ён нібы гіпнатызуе суразмоўцу. І нагадвае хутчэй фашыстоўскага малойчыка, чым шэкспіраўскага героя. Зноў сучасныя алюзіі? Але, іх у дадзеным спектаклі не бракуе.

З абсалютна аморфных, невыразных станоўчых вобразаў (Ліра сюды не адношу) можна вылучыць, хіба што, Эдгара (прыстойная акцёрская работа Г.Шкуратава) ды герцага Альбанскага (В.Дашкевіч). «Партытура» апошняй ролі прагучала досыць дакладна ў агульнай акцёрскай эклектыцы. Ці здолее герцаг вытрымаць выпрабаванне ўладай? «Кароль памёр — няхай жыве кароль» — відаць, гэтую думку меў на мэце падкрэсліць рэжысёр, калі даў апошнюю рэпліку не Эдгару, а персанажу В.Дашкевіча.

У коласаўскім спектаклі няма духоўнага ачышчэння, катарсісу, які, дарэчы, уласцівы большасці Шэкспіравых твораў. Хаос не зрабіўся гармоніяй. Набытая відушчасць герояў дарэмная, як дарэмныя і шматлікія ахвяры. Нездарма ж, напэўна, рэжысёр на другім паказе адмовіўся ад спярша ўведзеных у спектакль фігур анёлаў-ахоўнікаў. Відаць, такім і ўяўляецца рэжысёру сённяшні свет — поўны хаосу, дысгармоніі, згубных чалавечых страсцей, не азораны сэнсам існавання, духоўнасцю.

**Юрась ІВАНОЎСКІ.**

# ДАСЛЕДУЕЦЦА ТЭАТР

З 6 па 13 чэрвеня ў Маскве адбываецца XII Сусветны Кангрэс Міжнароднай Федэрацыі тэатральных даследаванняў. Яго тэма — «Тэатральнае прадстаўленне. Мінулае. Дзень сённяшні. Асноўныя напрамкі ў тэатральных даследаваннях». Упершыню ў Кангрэсе бярэ ўдзел беларускі вучоны, кандыдат мастацтвазнаўства Вячаслаў Ракіцкі. Паездку на прэстыжны навуковы форум прадстаўніка нашай краіны фінансуюць Фонд Сораса — Беларусь і Міжнародная Канфедэрацыя тэатральных Саюзаў.

**Наш кар.**

Да канца падпіснай кампаніі застаўся ўсяго адзін тыдзень!

Толькі да 15 чэрвеня вы можаце афарміць падпіску на штотыднёвік «Культура».

Падпісны індэкс «Культуры» — 63875.

Кошт падпіскі:
на тры месяцы — 2400 рублёў,
на адзін месяц — 800 рублёў.

**ДЫК БУДЗЬМА РАЗАМ!**

# СУСТРЭЧА НА АЎШРОС ВЕРТУ




Вільня. Сёння гэты горад робіцца для беларусаў усё больш далёкім. Нас раздзяляюць не толькі шлагбаумы межавых пераходаў, не толькі знаёмыя вуліцы Вільні, што атрымалі новыя, незнаёмыя назвы. Мяжа праходзіць глыбей — праз свядомасць, і сёння, напрыканцы стагоддзя, на вулках старажытнага горада рэдка пачуеш беларускую гаворку, якая гучыць там здавён. Але варта прыглядзецца — і ўбачыш: Вільня захавала свой статус горада многіх народаў, у тым ліку і беларускага. Сведчаннем гэтага сталі дні 21-22 траўня, калі беларуская грамадскасць адзначыла агульны для ўсіх юбілей — 75-я ўгодкі заснавання Віленскай беларускай гімназіі. Удзельнікамі свята сталі не толькі сябры Таварыства беларускай культуры, Таварыства беларускай школы Літвы, не толькі беларускіх нацыянальных суполак, але і былыя гімназісты, якія прыехалі ў Вільню ці даслалі свае віншаванні з Беларусі, Польшчы, Канады, ЗША, Украіны, Германіі, Расіі...



Дзеці беларускіх сялян, якія ў 20-я гады ехалі ў Вільню паступаць у нядаўна створаную гімназію, — атрымаўшы адукацыю, яны мусілі стаць новым пакаленнем нацыянальнай інтэлігенцыі, стварыць новую хвалю беларускага Адраджэння. Лёс вырашыў іначай. Адны выхаванцы гімназіі, якія меліся працаваць на карысць незалежнай Радзімы, былі забітыя. Другія — забытыя, трэція — сапраўды працавалі на карысць радзімы, толькі чужой. Але прафесар астранаўтыкі з Германіі Барыс Кіт, паэтка з ЗША Наталля Арсеннева, польскі перакладчык Муса Канапацкі — яны і дзесяткі іншых, скончыўшы Віленскую беларускую гімназію і апынуўшыся далёка ад Бацькаўшчыны, захавалі памяць аб ёй.

Дні святкавання 75-х угодкаў гімназіі сталі не толькі днямі сустрэч былых навучэнцаў. У будынку на Аўшрос Верту, 7-а, сустрэліся два пакаленні гімназістаў: старое і новае — тое, якое працягвае захоўваць памяць і традыцыі старой Вільні — радзімы беларусаў.

**У.ПАНАДА.**
**Фота аўтара.**

*На здымках:*

1. На пераходзе «Каменны лог» гасцей з Беларусі сустракалі прадстаўнік клуба «Сябрына» Хведар Нюнька і пасол Беларусі ў Літве Яўген Вайтовіч.

2. Сустрэча былых выпускнікоў.

# КАМПАНІЯ "УОЛТ ДЗІСНЭЙ" ПРАДСТАЎЛЯЕ



Уолт ДЗІСНЭЙ нарадзіўся ў 1901 годзе ў Чыкага. Быў ён чацвёртым сынам Эляса Дзіснэя, прадпрымальнага бізнесмена, які пастаянна спрабаваў пачынаць новую справу і пастаянна прагараў. Пазней сям'я пераехала ў Канзас-Сіці. Эляас Дзіснэй быў строгім бацькам, які верыў у дысцыпліну, упартую працу і мінімум забаваў. У вольны час Уолт займаўся развозкай газет і спрабаваў зарабляць на продажы прахаладжальных напояў у цягніках. Аднойчы бацька яго школьнага сябра запрасіў Уолта ў кіно, потым — на пастаноўку вадэвіляў, і Дзіснэй адразу ж захапіўся светам прадстаўлення.

Назіраючы за акцёрамі на сцэне і экране, Дзіснэй запісваў смешныя рэплікі і жарты і карыстаўся імі, робячы гумарыстычныя малюнкі для школьнай газеты. Калі бацька прапанаваў яму пастаянную работу ў сямейным бізнесе, Уолт адмовіўся, бо вырашыў стаць прафесійным мастаком. Яго першая праца — стварэнне мультыплікацыйных рэклам для прагляду ў кінатэатрах. Калі справы гаспадара пайшлі хутчэй, Дзіснэй разам з Юбам Айверксам, якому, як і Уолту, было 18 гадоў, адкрыў свой уласны бізнес. Разам яны зрабілі серыю мультфільмаў паводле «Алісы ў краіне цудаў». Алісу іграла актрыса, а ўсе астатнія персанажы былі маляванымі. У 21 год Дзіснэй пераехаў у Галівуд (хаця ў той час большасць мультфільмаў стваралася ў Нью-Ёрку), дзе арандаваў кавалак зямлі і пачаў здымкі, у якіх удзельнічалі пачынаючая актрыса, суседскія дзеці ды нямецкая аўчарка яго дзядзькі.

Ідэя стварэння Мікі Маўса нарадзілася ў 1928 годзе. Кінаіндустрыя была напалохана: са з'яўленнем гукавога кіно публіцы хацелася чуць, як акцёры гавораць на экране. Але ж толькі ў Дзіснэя хапіла фантазіі зрабіць гукавую мультыплікацыю. Ён імправізаваў з музыкай і шумамі, каб зрабіць «Параход Вілі» выразней, і заклікаў суседзяў і сяброў ацаніць ягоную работу. Хутка карціна была паказана ў адным з самых вялікіх кінатэатраў Нью-Ёрка. Яна зрабіла фурор, а Мікі Маўс імгненна стаў зоркай экрана.

Потым Дзіснэй стаў працаваць у іншым напрамку, ён узяўся за стварэнне серыі мультфільмаў «Забаўныя сімфоніі», у якой шкілеты, птушкі і дрэвы ажывалі пад музыку. Кінапракатчык з Нью-Ёрка не падтрымліваў гэтую ідэю: «Пабольш мышаў», — тэлеграфаваў ён. Але публіка і калегі Дзіснэя былі ў захапленні: Артура Тасканіні, у той час ужо прызнаны адным з выдатнейшых дырыжораў свету, глядзеў мультфільм «Канцэрт» шэсць разоў. Сяргей Пракоф'еў прапанаваў партытуру «Пеці і воўка» як аснову для стварэння мультфільма. Дзіснэй ажыццявіў гэтую ідэю ў 1946 годзе. Песня «Нам не страшны шэры воўк» з фільма «Тры парасяці» (1933) неспадзявана стала папулярнай, бо адлюстроўвала ўсеагульныя надзеі на хуткае заканчэнне эканамічнай дэпрэсіі. «Пабольш парасятак», — тэлеграфаваў Нью-Ёрк.

У 1935 годзе Уолт Дзіснэй наняў 300 мастакоў для работы над першым поўнаметражным мультыплікацыйным фільмам «Беласнежка і сем гномаў». Адзін Дзіснэй верыў, што гледачы прымуць мультфільм як паўнавартасную мастацкую карціну. Калі кошт вытворчасці дасягнуў астранамічнай для таго часу сумы ў паўтара мільёна долараў, галівудскія прадзюсэры назвалі гэты фільм «вар'яцкай задумай Дзіснэя».

Аднак надзеі Дзіснэя спраўдзіліся: з часоў прэм'еры ў 1937 годзе «Беласнежка» была абвешчана, ды і па сённяшні дзень з'яўляецца, класічным творам мультыплікацыйнага кіно.

У добры ці цяжкі час Дзіснэй быў непатрабавальным чалавекам. Ніколі не прымаў паставы важнай персоны. «Слава ні разу не дапамагла мне ні стварыць добрую карціну, ні зрабіць удалую падачу ў конным пола, ні зрабіць добрае ўражанне на жонку, — сказаў ён аднаму карэспандэнту. — Слава нават не адпуджвае блох з майго сабакі. Так што ад славы мала карысці». На сябе ён выдаткаваў мала, але затое ажыццявіў сваю запаветную мару — збудаваць вакол сада мініяцюрную чыгунку.

Маленькі цягнік прымусіў яго задумацца: чаму пацешлівыя паркі, куды ён па нядзелях вадзіў сваіх маленькіх дачушак, такія сумныя і непрывабныя?

... «Дзіснэйленд» пачынаецца з каласальнай, памерам у 40 га, аўтамабільнай стаянкі, але ў самім парку наведвальнікі забываюцца на свае штодзённыя клопаты. Збудаваная ў стылі пачатку стагоддзя Галоўная вуліца вядзе да плошчы, на якой стаіць казачны замак, а ад яго, як колавыя спіцы, разыходзяцца шэсць тэматычных секцый. Над «Краінай будучыні» ўздымаецца стартуючая ракета, параход «Марк Твэн» курсіруе паміж «Зямлёй піянераў», «Краінай мядзведзяў» і «Плошчай Новага Арлеана». А замак служыць уваходам у «Краіну-фантазію»; у «Краіне прыгод» можна пусціцца ў круіз па джунглях.

«Дзіснэйленд» лёгка высмейваць як настальгію па старых добрых часах, якіх ніколі не было. Але гэтая казачная краіна адкрыта ўжо 36 гадоў, і кожны год у ёй бывае да 12 мільёнаў чалавек.

Пасля смерці Дзіснэя ў 1966 годзе яго паслядоўнікамі былі менш прадпрымальныя людзі, яны згубілі глебу пад нагамі. Некаторы час студыя знаходзілася ў цяжкім становішчы.

Сёння кампаніяй кіруюць Майкл Айснер, таленавіты спецыяліст, які зрабіў сабе рэпутацыю на дзіцячых тэлепраграмах «Парамаўнт», дзе ён узначальваў вытворчы аддзел, і Фрэнк Уэлс, які пакінуў пост главы студыі «Уорнер Бразерс», каб ажыццявіць узыходжанне на самыя высокія ў свеце горныя вяршыні. (Ён уздымаўся на шэсць з сямі перад тым, як прыняўся за новую работу.) Айснер і Уэлс аднавілі рэпутацыю студыі, якая стала Меккай маладых талентаў і наватарскіх ідэй, і зрабілі студыю фінансава стабільнай, чаго ёй так не хапала пры жыцці Дзіснэя. Яны плануюць павялічыць лічбу выпускаемых фільмаў з 4 да 15 у год і адкрыць другую студыю побач з паркам «Уолт Дзіснэй ўорлд» у Флорыдзе.

Падрыхтаваў
Алесь **ІЧОС.**



# ДАЙДЖЭСТ

## «СЯРОД УСІХ МАСТАЦТВАЎ...»

### — «КІНАТАЎР» — НАЗАЎСЁДЫ», —

гэтыя словы належаць спадару Рудзінштэйну, «хроснаму бацьку» фестывалю. Але сёлетні «Кінатаўр» будзе адкрываць новы фінансавы дырэктар — Канстанцін Баравы. Ён чакае 60 працэнтаў прыбытку, бо на гэты фэст запрасілі не спонсараў, а інвестараў. Адборачная камісія конкурсу, прааналізаваўшы 97 карцін, вырашыла, што найбольшую цікавасць выклікаюць стужкі маладых рэжысёраў «Кош ба Кош» Бахціяра Худайназарава, «Падмаскоўныя вечары» Валерыя Тадароўскага, «Пешаварскі вальс» дэбютантаў Каюмава і Бекмамбетава. Больш паловы конкурсных фільмаў — меладрамы, альбо тое, што ў нас разумеюць пад гэтым словам. Паварот ад «парнухі» да «пачуццяў»!

### «СТОМЛЕНЫЯ СОНЦАМ»

Як сцвярджае рэжысёр Валерый Тадароўскі, які вярнуўся днямі з закрыцця Канскага кінафестывалю, самымі рэальнымі прэтэндэнтамі на «Гран-пры» — «Залатую пальмавую галінку» да апошняга дня былі тры фільмы: «Жыць!» кітайскага рэжысёра Чжана Імоў, «Тры колеры» выдатнага польскага майстра Кшыштафа Келеўскага і фільм Мікіты Міхалкова «Стомленыя сонцам».

«Вось Мікіта Міхалкоў для Кан чалавек вядомы, але заўсёды нечаканы. Ён проста быў абавязаны атрымаць узнагароду не толькі ў Венецыі, а і на гэтым фестывалі. Нават арганізатары паказ стужкі «Стомленыя сонцам» прызначылі напярэдадні закрыцця».

Але ж нечакана пераможцам 47-га Міжнароднага кінафестывалю ў Канах стаў малады амерыканскі рэжысёр Квенцін Таранціна за стужку «У жанры дэтэктыва». Як сцвярджае ўсё той жа Валерый Тадароўскі, у гэтым годзе адносіны паміж амерыканскім і еўрапейскім кіно даволі складаныя. Сёлета не было шумных амерыканскіх гала-прэм'ер. Заакіянскія прадзюсэры байкатавалі Канскі фестываль.

А «Вялікай прэміяй» міжнароднага журы ўзнагароджаны «Стомленыя сонцам» і «Жыць!». Мода на экзотыку з Усходу стала гаснуць.

### ЖАНУ ГАБЭНУ — 90 ГАДОЎ

У траўні споўнілася б Жану Габэну, вялікаму майстру, 90 гадоў. І ягоныя фільмы — гэта шмат гадоў жыцця Францыі. Але ж і шмат нашага з вамі жыцця. Памятаеце: «Вось час забойцаў», «Вуліца Прэры», «Сонца валацужнікаў», «Двое ў горадзе»? Сімвал французскага кіно, ён здымаўся з маладым Ліна Вентурам, Аленам Дэлонам, Жанам-Полем Бельмандо, якія прадстаўлялі зусім іншае пакаленне і зусім іншую Францыю, але лепш за ўсіх Жан Габэн выказаў характар Францыі праз сваіх герояў.

## БЕЗ ГРЫМУ

### «МАЛЕНЬКІЯ ТРАГЕДЫІ» НЯКРОШУСА

На Міжнародным тэатральным фестывалі «Балтыйскі дом» галоўная ўзнагарода «Гран-пры» прысуджана спектаклю знакамітага літоўскага рэжысёра Эймунтаса Някрошуса «Моцарт і Сальеры. Дон Гуан. Чума». Гэта пастаноўка створана паводле «Маленькіх трагедый» А.С.Пушкіна. Наступная прэзентацыя гэтага сцэнічнага твора адбылася на тэатральным фестывалі «Кантакт» у Торуне.

### «БАЛЕТ, БАЛЕТ...»

Артысты балета Літвы, Латвіі і Эстоніі бралі ўдзел у творчай вечарыне оперы і балета Літвы. Літа Бейрыс, зорка Латвійскага Нацыянальнага балета, галоўны балетмайстар Нацыянальнай оперы Латвіі паказала праграму, прысвечаную 70-годдзю балета гэтай дзяржавы. Акрамя балетаў І.Стравінскага «Пульцынела» і Б.Бартака «Цудоўны мандарын» была выканана Сёмая сімфонія Людвіга ван Бетховена, харэаграфію якой стварыла Літа Бейрыс.

Па матэрыялах
замежнага друку.

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі /пераадрасоўкі/ без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі /пераадрасоўкі/.

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з дастававачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.




# «МНЕ НЕ ЦІКАВА КАПІРАВАЦЬ ПРЫРОДУ...»

*СЯРГЕЙ ЦІМОХАЎ — прадстаўнік паганскай плыні ў беларускім мастацтве. Нарадзіўся ў 1960г. у вёсцы Кропін Калінкавіцкага раёна, у 1984г. скончыў БДТМІ (кафедра манументальнага мастацтва), цяпер жыве і працуе ў Полацку, дзе стаўся саўладальнікам вядомай галерэі «Рыса».*

**— Сяргей, ты па адукацыі манументаліст, але больш працуеш у галіне станковай графікі і жывапісу...**

— Ці бачыш, манументальны жывапіс мяне таксама заўсёды вабіў, і тое-сёе я раблю ў ім дагэтуль — і роспісы, і вітражы. Для мяне застаецца вялікім аўтарытэтам мой настаўнік па інстытуце Гаўрыла Вашчанка. Але ў сэнсе творчасці манументальнае мастацтва, я лічу, мае меншую ступень свабоды, бо трэба прыстасоўвацца да архітэктуры, улічваць стылістыку і прызначэнне будынка, у якім працуеш. Даводзіцца ўлічваць інтарэсы і пажаданні замоўцы, гэта значыць — той ці іншай афіцыйнай установы.

**— А паколькі роспісы зазвычай робяцца ў ідэалагічных установах (дамах палітасветы, палацах культуры, цэрквах), манументаліст, мабыць, адчувае яшчэ і ідэалагічны ціск?**

— Так. Да таго ж, падчас навучання я зацікавіўся беларушчынай, хацеў распрацоўваць яе тэмы, а свабода рабіць гэта ў манументальным мастацтве з'явілася толькі ў апошнія гады. А ў жывапісе абмежаванняў для твайго ўяўлення значна меней: ёсць палатно, ёсць фарбы і ёсць твае думкі, настрой і пазіцыя, і ты сам стасуеш іх між сабой так, як лічыш патрэбным.

**— Можна сказаць, палатно — гэта эстэтычна нейтральная паверхня, у адрозненне ад тынкоўкі на сценах той ці іншай установы.**

— Бясспрэчна. Жывапіс — найбольш разняволены жанр выяўленчага мастацтва, і не толькі ў эстэтычным, але і ў фізічным плане: роспіс назаўжды застаецца там, дзе яго зрабілі, карціна ж здольная вандраваць па свеце, нібы жывы пілігрым.

**— Так, жывапіс больш рухомы і аператыўны. Карціну можна насіць з сабой: ці азначае гэта, што на стварэнне яе ў большай ступені, чым на роспіс, уплывае пануючая мода?**

— На маю думку, у жывапісе моды — у тым жа разуменні, што і ў чалавечай вопратцы, — не існуе, неяк гэтае слова «не прыліпае» да сапраўднага мастацтва. Безумоўна, ёсць мастакі, чыя манера пісьма заўважна мяняецца пад уплывам нейкіх палітычных падзей або перамен у курсе грашовых адзінак. Модным лічыцца, напэўна, тое, што добра купляецца. Тым не менш я, назіраючы за калегамі, прыйшоў да парадаксальнай высновы. Той, хто імкнуўся зарабляць грошы, не на шмат вырас над сабой і ў творчым плане, але той, хто працаваў не на продаж і нічога не патрабаваў ад жыцця за сваю працу, — праз пэўны адрэзак часу нават у плане кан'юнктуры рынку апынаецца ў больш выгодным становішчы: шчырая праца стварае мастаку імя, да якога потым самі сабой «прыліпаюць» і грошы, і ўсё астатняе, што патрэбна чалавеку. Калі чалавек арыентуецца на кожную моду ў сваім рамястве, ён паступова страчвае адчуванне творчасці і саму здольнасць сказаць штосьці сваё. Сапраўдны мастак заўсёды арыгінальны: яго можна пазнаць па ўласным стылі, каларыце, тэматыцы твораў, а таксама грамадскай пазіцыі. Без свайго стылю чалавек не будзе мець ніякай вагі ў мастацтве.

**— А ці няма ў цябе адчування, што ў сучасным свеце жывапіс , калі параўнаць яго з кінематографам, фатаграфіяй, камп'ютэрнай графікай, — стаўся архаічным жанрам выяўленчага мастацтва, у якім ужо немагчыма сказаць штосьці новае? Або так: раней мастакі, сапраўды, шукалі новае, кожны спрабаваў стварыць свой стыль, сваю школу, але ў апошнія дзесяцігоддзі пачаўся адкат у мінулае, названы постмадэрнізмам (дэманстратыўныя запазычванні ў папярэднікаў, кампіляцыі чужых сюжэтаў, прыёмаў і гэтак далей). Ты, аднак, лічыш, што развіццё жывапісу яшчэ не скончылася?**

— Лічу, што не. У сучасным мастацтве існуюць паралельна розныя «жылы»: рэалістычная, імпрэсіяністычная, сюррэалістычная і іншыя, а таксама перформенс, дызайн, камп'ютэрная графіка і шмат чаго яшчэ. І немагчыма сказаць, што з іх больш перадавое, якая галінка дрэва расце шпарчэй. Калі Казімір Малевіч стварыў свой «Чорны квадрат», ён ужо тады спрабаваў «паставіць кропку» ў развіцці выяўленчага мастацтва: далей, маўляў, руху няма, але гэта спарадзіла толькі новую плынь у жывапісе. У музыцы існуюць толькі сем нот, але спалучэнняў іх могуць быць мільёны — і тое ж самае адбываецца не толькі з колерамі, але і з тэхнічнымі прыёмамі жывапісу. Выяўленчае мастацтва будзе развівацца, пакуль чалавек будзе здольны ўбачыць нешта новае, альбо ўбачыць вядомае неяк інакш.

**— Ты лічышся, так бы мовіць, паганскім мастаком. Чаму цябе прывабіла менавіта гэтая тэматыка?**

— Монатэістычная, у прыватнасці, хрысціянская рэлігія мне здаецца залішне кананізаванай, што адбіваецца і на мастацтве, якое мае «абслугоўваць» яе: маляваць анёлаў і святых трэба вось так, а не інакш. Паганства больш разняволенае ў эстэтычным плане і таму больш цікавае мне як мастаку. Кожнае племя і нават кожны чалавек у паганстве мог мець уласнага бога, вакол якога «нарастала» адметная культура. Калі старажытныя мастакі рабілі, напрыклад, стоды — ім ніхто не дыктаваў, якой формы і вышыні яны павінны быць. Як чалавек адчуваў — так і рабіў: мастацтва нараджалася ў яго сярэдзіне, а не прыходзіла звонку. У тае часы чалавек быў часцінкай прыроды і не адрозніваў сябе ад яе...

**— Ты лічыш, хрысціянства ды іншыя монатэістычныя рэлігіі адасобілі чалавека ад прыроды, што і спрычынілася да сучасных экалагічных і псіхалагічных праблем?**

— Так, мы «выскачылі» з прыроды: рух цывілізацыі апярэджвае натуральны час. У паганстве ж чалавек адчуваў сябе роўным птушкам у небе і рыбам у моры. На маю думку, усялякую рэлігію, а тым больш — монатэістычную, нараджае дзяржава, органы ўлады. Рэлігія дазваляе абагульніць вялікае кола людзей, а таксама прымушае іх жыць у пэўных межах — і эстэтычных, і тэрытарыяльных. Я лічу, рэлігія выконвала функцыі ідэалогіі, патрэбу ў якой мае кожная дзяржава. Сёння нашае грамадства ад камуністычнай ідэалогіі вяртаецца да хрысціянскай, ад адной сеткі ўяўных каштоўнасцяў да іншай, больш старажытнай. А ў паганскія часы — прынамсі, на гэтай зямлі — дзяржаўнасці не было, культура і мастацтва існавалі ў «чыстым выглядзе». Потым хрысціянства разам з дзяржавай практычна знішчылі культурны пласт паганства. А калі б яно захавалася — я ўпэўнены, усе дзікунскія звычаі набылі б не менш прыстойную і цывілізаваную форму, чым цяперашнія хрысціянскія абрады.



**— Ці няма ў цябе адчування, калі робіш стод або пішаш карціну, што ты ствараеш прадмет культу, сучасны паганскі адпаведнік хрысціянскіх абразоў?**

— Калі сакральны элемент і ўводзіцца ў выяву, дык толькі падсвядома, інтуітыўна. Ні ў якім разе я не хачу, каб на зроблены мною стод людзі рэагавалі гэтаксама, як я, бо імкнуся стварыць прадмет асабістага, а не калектыўнага культу. Я не ўлажу ў навуку, археалогію, бо кіруюся сваімі пачуццямі, а не дакладнымі рэшткамі сведчанняў пра дахрысціянскі перыяд нашай культуры. Я не адраджаю былыя эстэтычныя формы паганства, а ствараю іх нанова са свайго асабістага светаўспрымання. І не толькі стоды, але і рытуалы — напрыклад, рытуальныя танцы ў гонар Вялеса альбо Дажджбога. Я не магу бачыць свет гэтаксама, як чалавек у дахрысціянскія часы, бо я адрозніваюся ад яго нават біялагічна. Але вядома, што гарадская дзяўчына, адзін раз пачуўшы ад сваёй вясковай бабулі народную песню, праз нейкія гены лёгка пераймае нячутныя іншым нюансы, дух гэтай песні. Вось, напэўна, і я не магу бачыць і думаць, як далёкія продкі, але ўявіць сабе іхнія пачуцці я ўсё-такі здольны.

**— Аднак, старажытныя мастакі рэзалі стоды і малявалі, у адрознасць ад сучасных, не для выставы і не на продаж — не на паказ, а для «ўнутранага» спажывання...**

— А мне здаецца, розніцы тут няма: мастак і ў старажытнасці не хаваў свае творы ад чужых вачэй, вакол іх малілася ўсё племя, ды і на продаж, напэўна, рабіліся амулеты, напрыклад. Іншая справа, што цяпер маліцца на стод гледачоў ніхто не прымушае. Мы не можам вярнуць учарашні дзень — і гэта нармальна, бо мастацтва павінна развівацца далей і далей.

**— У галерэі «Рыса» толькі што адбылася твая персанальная выстава. Распавядзі аб ёй, калі ласка.**

— Над тэматыкай паганства я працую і ў жывапісе, і ў графіцы, і ў камяні. Спецыяльна для гэтай залы напісаў карціны буйнога фармату. Выстава была спробай стварыць старажытнае капішча. У графічных аркушах там былі прадстаўлены не толькі стоды, але і пейзажы, у якіх, спадзяюся, адчуваецца паганскі дух. Напрыклад, серыя «Выспы»: я там нібыта з вышыні птушынага палёту аглядаю зямлю і ствараю знакавыя выспы, якіх у прыродзе не існуе. Мне не цікава капіраваць прыроду, гэта было б рамяством, а не творчасцю. Апрача колеру і графікі я выкарыстоўваю камяні, бо яны — сапраўдныя сведкі ўсяго, што адбывалася на гэтай зямлі.

**— Камяні існуюць у адной і той жа форме тысячы гадоў...**

— Так, гэта рэлікты мінуўшчыны ў цяперашнім часе, гэта рэчы, да якіх дакраналіся позіркам, а магчыма — і рукамі, нашыя продкі. Камяні ляжаць на аркушах з графікай, але дадаткова я «прывязаў» іх да выставы з дапамогай каляровага роспісу.

**— Напэўна, сама прырода сталася тваім сааўтарам?**

— Менавіта так. Я хацеў, каб адзіную візуальную прастору стварылі мая графіка і першабытная паверхня камянёў...

**— Якое мастацтва ты лічыш сапраўдным: тое, што ствараецца ў межах пэўнага канона альбо, наадварот, па-за ягонымі межамі?**

— На маю думку, мастацтва павінна, хай не заўсёды, быць вольным ад сацыяльнай замовы, якая калісьці і набыла аблічча канона. Можаш запытаць, як тады даць рады з беларускім нацыянальным мастацтвам. Яшчэ не так даўно лічылася, што намаляваць Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг — гэта вельмі прагрэсіўна, цікава і па-беларуску. І я таксама маляваў Пагоню, але неяк задумаўся: раптам прыйдзе такі час, калі яна станецца афіцыйным сімвалам органаў улады? Што мне тады, пераходзіць на серп і молат? Напэўна, беларускасць мастака выяўляецца не ў дэкларатыўных сюжэтах, а ў ягоным унутраным светаадчуванні. Галоўнае, каб мастак любіў гэтую зямлю, гэтых людзей, а маляваць ён можа што і як заўгодна, бо ягоная беларускасць сама сабой перацячэ на палатно. У свой час казалі, што Шчамялёў не нацыянальны. Але ён становіцца зоркай — і ўсе разумеюць, што для развіцця нацыянальнага мастацтва ён робіць больш, чым той, хто ўвесь час малюе нейкія эмблемы і сцягі.

**— Беларускім можа стацца толькі тое, што цяпер яшчэ не ўсім вачам здаецца беларускім.**

— Так яно і павінна быць, бо ўсе вочы наталіць можна толькі сурагатам. Лёнік Тарасэвіч едзе кудысьці ў Амерыку і малюе там горы — а тым не менш застаецца беларускім мастаком у сваіх творах, бо па сваім ладзе мыслення і спосабе зроку ён беларус.

**— Тым больш, што ў сучасным мастацтве лічыцца, што асноўная частка твора захоўваецца не ў палатне альбо камяні, а ва ўяўленні, светаўспрыманні наведніка выставы. Магчыма, усё, на што праз свае вочы глядзіць беларус (не абавязкова мастак), ужо становіцца беларускім... Бясспрэчна адно: Беларусь — з'ява не толькі геаграфічна-рэальная, але і ўяўная. Дык хай нам хопіць вачэй, каб жыла Беларусь.**

**Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

**Фота Ігара МАЛАШЧАНКІ.**

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ШАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра
газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул..ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 8000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

